№ 5 (67) • КАСТРЫЧНІК 2015

# ЮБІЛЕЙКА

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ





# НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ

## упершыню ў гісторыі атрымала беларуска

"For the greatest benefit to mankind"
Alfred Nobel

The Swedish Academy has today decided to award the

2015 NOBEL PRIZE IN LITERATURE

Svetlana Alexievich

"for her polyphonic writings, a monument to suffering and courage in our time".

Nobelprize.org
The Official Web Site of the Nobel Prize

Illustrations: Niklas Elmehed. Nobel Prize Meddal: © ® The Nobel Foundation. Photo: Lovisa Engblom.

«За свае поліфанічныя творы, помнік пакутам і мужнасці нашага часу», — гаворыцца ў фармулёўцы Нобелеўскага камітэта.

8 кастрычніка ў Стакгольме было абвешчана імя новага лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Гэта беларуска Святлана Алексіевіч. Выхадцы з Беларусі атрымлівалі Нобель раней, але беларуска, грамадзянка Беларусі – упершыню. Таму 8 кастрычніка – гістарычны дзень для Беларусі.

Сем цікавых фактаў з біяграфіі пісьменніцы:

**1. ВЫРАТАВАЛІ ЖЫЦЦЁ ЎКРАІНСКІЯ МАНАХІНІ**

Святлана Алексіевіч нарадзілася ў 1948 годзе ва ўкраінскім Івана-Франкоўску.

Яе бацька – беларус, вайсковец-лётчык, маці – украінка.

«Мая ўкраінская бабуля заўсёды мне казала, што я мушу любіць Украіну. Усё дзяцінства яна мне расказвала пра Галадамор, які гэта быў кашмар».

Алексіевіч расказвала, што гісторыя яе жыцця пачыналася з таго, як дактары сказалі, што яна не выжыве.

– У мяне быў рахіт. Маці нічога не магла купіць на базары. Сябры бацькі перакінулі яго нейкім чынам праз сцены манастыра, і ён прыйшоў да настаяцельніцы. Ён папрасіў, каб выратавалі дзіця. Настаяцельніца доўга думала, пасля сказала, каб жонка прыходзіла штодня, мы будзем выдаваць паўлітра казінага малака.

**2. ДЗЕВЯЦЬ ТРОЕК У АТЭСТАЦЕ**

У 1961 годзе сям'я Алексіевічаў пераязджае ў Петрыкаўскі раён Беларусі.

Бацька – Аляксандр Яўхімавіч – становіцца дырэктарам Капаткевіцкай сярэдняй школы. Гэта самая глуш Палесся. Маці таксама працавала настаўніцай. Цікава, што ў гэтай самай школе вучылася Ніна Мазай – будучая віцэ-прэм'ерка БССР.

Выдатніцай Алексіевіч не была. У адным з інтэрв'ю яна прызнавалася, што скончыла школу аж з дзевяццю «тройкамі». Выдатна было толькі па літаратуры і гісторыі. Алексіевіч кажа, што асаблівай сімпатыі да школы яна ніколі не мела, а хацела хутчэй вырвацца ў вялікі свет.

**3. ПАПРАЦАВАЛА Ў РАЁНКАХ І НАСТАЎНІЦАЙ**

Пасля школы Алексіевіч працавала карэспандэнтам нараўлянскай раёнкі «Прыпяцкая праўда». Працавала настаўніцай нямецкай мовы ў Мазырскім раёне. У 1967 годзе паступіла на журфак БДУ. Пасля яго сканчэння была размеркаваная ў бярозаўскую раёнку «Маяк камунізму». Ад 1976 года працавала ў мінскіх газетах і літаратурных часопісах.

Моцны ўплыў на творчасць Алексіевіч аказаў Алесь Адамовіч і кнігі «Я з вогненнай вёскі», «Блакадная кніга», што з'явіліся з ягоным удзелам.

Менавіта Адамовіч запачаткаваў у Беларусі жанр, дзе змешваліся літаратура і журналістыка. Алексіевіч называла Адамовіча сваім настаўнікам і пайшла яго дарогай.

«З тысячы галасоў, кавалачкаў нашага быту і быцця, словаў і таго, што паміж словамі я складваю не рэальнасць (рэальнасць недасягальная), а вобраз… Вобраз свайго часу. Тое, як мы яго бачым, як мы сабе ўяўляем. Я складваю вобраз сваёй краіны ад людзей, якія жывуць у мой час. Я хацела б, каб мае кнігі сталі летапісам, энцыклапедыяй амаль дзясятка пакаленняў, якія я заспела і разам з якімі іду», – так Алексіевіч ахарактарызавала сваю творчасць.

Два гады выдавецтвы мурыжылі яе кнігу «У вайны не жаночае аблічча».

Набор яе першай кнігі «Я з'ехаў з вёскі» рассыпалі ў тыпаграфіі.

Толькі з крызісам Савецкага Саюза яе кнігі змаглі паўнаварта дайсці да чытача.

**4. ХВАЛА АРЛОВА**

Намеснік дырэктара Ліцэя імя Якуба Коласа Лявон Баршчэўскі кажа, што Алексіевіч была адной з першых, хто стаў на абарону ліквідаванай навучальнай установы:

– Калі нас выгналі ў падполле, то Алексіевіч дапамагала грашыма на арэнду памяшканняў, ахвяравала частку ўласнай бібліятэкі, удзельнічала ў сустрэчах.

Алексіевіч ніколі не была звязаная з палітычнай апазіцыяй, але ўвесь час дапамагала грамадзянскай супольнасці.

Таксама Баршчэўскі кажа, што за доўгі час знаёмства ніколі не чуў ад Алексіевіч нічога абразлівага ў бок беларускай мовы. «Усё гэта лухта, што яна супраць усяго беларускага».

Літаратар Уладзімір Арлоў расказаў незвычайную гісторыю, як яму ў жыцці дапамагла Святлана Алексіевіч:

– Пасля майго выступу на Дзядах 1988 года, да мяне пачаў заходзіць міліцыянт Сальнік. Ён склаў два запар пратаколы за пражыванне ў Мінску без прапіскі. Мне грэзіла дэпартацыя па месцы прапіскі ў Полацк. У гэтай сітуацыі на дапамогу мне прыйшла Святлана Алексіевіч.

Жыллёвыя ўмовы пісьменніцы дазвалялі прапісаць у сябе Арлова. Алексіевіч падала дакументы ў камунальныя службы.

Дзякуючы гэтаму Уладзімір Арлоў захаваў працу ў «Мастацкай літаратуры», а таксама застаўся ў Мінску.

**5. ЦЭНІЦЬ СТАНКЕВІЧА І ФЕДАРЭНКУ**

Святлана Алексіевіч шмат чытае беларускай літаратуры. Мала што праходзіць міма яе.

«Я люблю тое, што мяне адкрывае, я люблю сапраўдныя рэчы… Напрыклад, «Любіць ноч – права пацукоў» Юрыя Станкевіча. Я помню, што калі гэта прачытала, я ахнула. Я ўбачыла добра зробленую рэч», – казала Алексіевіч.



Алексіевіч таксама адзначала Андрэя Федарэнку за ягонае апісанне вёскі.

Сёлета, калі «Наша Ніва» надрукавала дзённік Андруся Горвата – мінчука, які пераехаў у вёску, гэта так уразіла Святлану Алексіевіч, што яна даслала ў палескую вёску бандэроль з кніжкамі.

**6. НЕ АТРЫМАЛА НІВОДНАЙ ПРЭМІІ Ў БЕЛАРУСІ**

Пісьменніца абласканая міжнароднымі літаратурнымі прэміямі. Напрыклад, толькі за апошнія гады яна атрымала прыз чытацкіх сімпатый на самай прэстыжнай прэміі Расіі «Вялікая кніга», прэмію імя Рышарда Капусцінскага ў Варшаве, званне афіцэра ганаровага ордэна мастацтваў і літаратуры Французскай Рэспублікі, французскую прэмію Медычы, прэмію саюза нямецкіх кнігагандляроў. Ад канца 90-ых яе рэгулярна ўзнагароджваюць на Захадзе, а вось ніводнай прэміі ў Беларусі яна так і не атрымала.

Дарэчы, у расійскіх СМІ з года ў год качуе адна і тая ж памылка, што Алексіевіч жыве ў Еўропе. Не, яна вярнулася ў Беларусь і апошнія гады жыве ўзімку ў Мінску, а цёплай парой – на лецішчы каля вытоку Іслачы. Праўда, пры гэтым шмат падарожнічае, сустракаецца з чытачамі ва ўсім свеце.

**7. УСТАЛА НА АБАРОНУ УКРАІНЫ І ЕЎРАПЕЙСКІХ КАШТОЎНАСЦЕЙ**

Ад пачатку вайны на Данбасе Святлана Алексіевіч адразу заняла ясную пазіцыю. Яна не саромеецца называць калектыўным вар'яцтвам тое, што сёння робіцца ў Расіі. Яна заклікае расійскіх інтэлектуалаў не маўчаць у гэтай сітуацыі, не баяцца выказваць сваё меркаванне.

«Пуцін – не палітык. Пуцін – кадэбэшнік. І тое, што ён робіць, гэта правакацыйныя рэчы, якімі звычайна займаецца КДБ», – гэта таксама словы Алексіевіч.

У нядаўнім інтэрв'ю «Нашай Ніве» Святлана Алексіевіч сказала: «Мы маем справу з рускім нацыяналізмам, які вельмі небяспечны. Мне вельмі шкада, што ён паражае і таленавітых людзей, як той жа Прылепін. Дай бог, каб мы ацалелі ў гэтым рускім нацыяналізме». «Беларусь можа выратавацца толькі, калі павернецца ў бок Еўропы», – дадала яна.

Апошнім часам у расійскіх СМІ прайшлі хвалі цкавання Святланы Алексіевіч.

nn.by

# СУПЕРБРАТЬЯ «МАРИО»

## «поселились» в брестском дворике на Наганова

**Что делать, если в центре вашего двора «красуется» старая, уродливая, приземистая постройка, поросшая травой на боках-склонах? Превратить её в игру, ну, или в воспоминание об игре. Позвать на помощь вымышленного персонажа видеоигры, безумно популярной более двух десятков лет назад. А лучше – сразу двух: братьев Марио!**

Взрослые, чьё детство прошло в 90-х, наверняка хорошо помнят усатого сантехника по имени Марио. Марио и его брат Луиджи жили в выдуманном мире Грибного королевства, которое пытались пройти при помощи реальных детей и подростков (да и взрослых, кого мы обманываем). Игровые приставки, джойстики, картриджи. Культовая игра «Super Mario Bros.». Тем, кто в курсе, не нужны разъяснения.

Похоже, что двор за продовольственным магазином на улице Наганова украшали именно они – повзрослевшие дети лихих «девяностых». Они провели Марио и Луиджи в нашу реальность: братья-сантехники по-прежнему энергичны и ловки – только не на экранах телевизоров, а на осыпающихся, мрачных стенах и парапетах заброшенного строения. С разрухой супер-героям, конечно, не справиться, а вот с мрачностью и солдатами черепашьего короля – вполне.

В общем, молодцы, взрослые! Вспомнили, придумали, нарисовали. И никто не помешал: ни лень, ни злой гриб Гумба. И хочется поблагодарить, даже за чужой двор и за эмоции незнакомых детей, которые присоединяются к супербратьям Марио после школы. Поблагодарить и подарить Огненный цветок, который превращает Большого Марио в Марио Огненного… вы ведь помните, повзрослевшие дети «девяностых»!

Вот он двор – и немного красок, и задора. Хуже ведь не стало. Стало веселее. С капелькой ностальгии для взрослых.



P.S. Работы выполнены активистами проекта «Будь волонтёром» при поддержке АРР «Дзедзіч».

**Дмитрий КОСТЮКЕВИЧ**





# КОНКУРС “СЭЛФІ ПА-БЕЛАРУСКУ”

## стартуе ў Берасці

**АРР “Дзедзіч” запрашае берасцейцаў прыняць удзел у фотаконкурсе ў межах кампаніі “Наша мова”.**

Умовы простыя: трэба зрабіць аўтапартрэт у Берасці на фоне беларускага надпісу або з любымі словамі ў кадры па-беларуску. Гэта можа быць фotaздымак на фоне шыльды, білборда, ролік сярод афіш або вітрын — любое крэатыўнае сэлфі, якое папулярызуе беларускую мову ў Берасці.

Да ўдзелу запрашаюцца берасцейцы і госці горада без абмежавання па ўзросту, а ў якасці работ прымаюцца як здымкі, так і відэа.

Фатаграфіі і відэа трэба даслаць па адрасе info@dzedzich.org да 12 кастрычніка з указаннем аўтара і яго кантактных дадзеных (email, нумар тэлефона) або апублікаваць Вконтакте ці Instagram з хэштэгам #нашамова.

Галоўная ўмова: у кадры павінен быць аўтар і выразна бачны надпіс па-беларуску.

З атрыманых прац журы абярэ фіналістаў і выставіць іх сэлфі на адкрытае галасаванне ў групе vk.com/nashamova. Галасаванне працягнецца да 15 кастрычніка, а тройка пераможцаў атрымае каштоўныя прызы. Лепшая праца таксама стане аватаркай групы “Наша мова”.

Удзел у конкурсе —выдатны шанец праявіць сябе для актыўных, вясёлых і маладых душой, для тых, хто любіць родную мову, Берасце і не супраць атрымаць за сваю фота- і відэатворчасць прыемныя падарункі.

**Дэдлайн:** 12 кастрычніка 2015 года.

Арганізатары: АРР “Дзедзіч”, кампанія“Наша мова”, Брэсцкае гарадское студэнцкае культурніцкае аб’яднанне“Харугва”.

**Прызы:**

1 месца—партатыўная зарадная прылада CANYON 7800 мАг;

2 месца—партатыўная калонка ACMESP103;

3 месца— карта памяці MicroSDHC 16Gb SmartBuy.



**Конкурс "Сэлфі па-беларуску"**

**Зрабі фота ці відэа сэлфі з беларускімі словамі і дашлі сваю працу на info@dzedzich.org да 12 кастрычніка ці публікуй у сацсетках з #нашамова**

Кантактная інфармацыя: info@dzedzich.org, dzedzich.org, vk.com/nashamova.

**Даведка:**

Кампанія “Наша мова” стартавала ў Берасці ў 2014 годзе. Яна прыцягнула вялікую колькасць удзельнікаў у свае праекты: стварэнне паштоўкі “Кахай па-беларуску”, “Берасцейскі вершнік”, конкурс “Фотамаўленне”, акцыя “Мова дзеткам” і іншыя.

У 2015 годзе кампанія працягвае прыцягваць берасцейскую моладзь да актыўнага жыцця.

**dzedzich.org**

# ТОП-5 ОСТРЫХ ВОПРОСОВ ТАТЬЯНЕ КОРОТКЕВИЧ

## от брестчан

30 сентября в ДК профсоюзов прошла встреча кандидата в президенты Татьяны Короткевич с жителями Бреста. Во время общения политика с электоратом было задано свыше 20 вопросов. TUT.BY выбрал наиболее острые моменты прошедшей встречи.

**«ЗАГОВОР ПОЛЯКОВ»**

Игорь Гетман, член РОО «Белая Русь»: «Как можно оценить политику в отношении Беларуси со стороны одной из стран ЕС, нашей соседки Польши, которая <…> поставила цель за счет граждан Беларуси создать миллион владельцев карты поляка?»

Татьяна Короткевич: «Я не думаю, что от хорошей жизни люди задумываются над тем, чтобы оформить себе карту поляка. Все больше людей видят уровень жизни в Польше. <…> Там дешевле купить продукты. Это сегодня беспокоит людей. Поэтому со стороны государства должна быть такая политика, чтобы наше было дешевле, чтобы люди оставались тут работать, так как есть перспективы. Тогда никто не будет нам угрожать».

**«БЕЗ ОПЫТА УПРАВЛЕНЦА»**

Сергей, коренной брестчанин: «Не умаляя ваших заслуг, но из вашей программы я вынес суждение, что у вас нет опыта управленца. Как вы видите себя в качестве президента в нашем государственном устройстве, где очень многое зависит от президента?»

Т.К.: «Во-первых, надо сделать так, чтобы как можно меньше зависело от президента. У нас достаточно профессионалов. Они должны нести ответственность и управлять. Поэтому первое, что нужно сделать, — это разделение властей. Во-вторых, всю свою жизнь я управляла человеческим потенциалом: когда работала с молодыми людьми, когда сталкивалась в социальном центре с огромным количеством людей, у которых есть проблемы, которые они не могут решить. В политической деятельности: в „Говори правду“ и социал-демократической партии я умела объединять людей, находить общее и достигать своих целей. У меня достаточно опыта, чтобы сформировать команду, распределить обязанности и управлять страной».

**«Я САМЫЙ ОБЪЕДИНЕННЫЙ КАНДИДАТ»**

Петр Пицко, член ОО «БРСМ»: «В своем сегодняшнем выступлении вы упомянули о том, что вам удастся построить замечательные отношения с соседними государствами. Замечательное стремление. Тем не менее реалии таковы, что в ходе предвыборной кампании вам, к сожалению, не удалось построить хорошие отношения с вашими товарищами, с которыми вы все время существования кампании митинговали и на площади кровь проливали. Я не назову их поступок мужским, но даже со своими товарищами, с так называемой оппозицией, вам не удалось построить отношения. Каким образом вы собираетесь строить отношения со всем миром?»

Т.К.: «Я самый объединенный кандидат. В моей команде есть представители БНФ, мои однопартийцы, представители других партий, которые самостоятельно приняли решение поддержать меня. Сегодня есть несколько оппозиционных лидеров, которые высказываются против, но мне кажется, что они так же устали, как и наш президент».





**ГЕЙ-ПАРАДЫ И «ДРУГИЕ МЕРОПРИЯТИЯ»**

Рядовая брестчанка: «...Вы сказали, что не видите ничего страшного в том, что сексуальные меньшинства будут распространять свои идеи, в том числе – путем гей-парадов и других мероприятий. <…> Я правильно понимаю, это ваш ход в предвыборной кампании, а на самом деле иначе, или вы действительно думаете, что нам для полного счастья не хватает гей-парадов?»

Т.К.: «Я знаю, что многих людей этот вопрос тревожит. Мне кажется, что все это результат действия государственной пропаганды, которая заставляет нас об этом думать и беспокоится вместо того, чтобы решать, что в нашей экономике делать. Я смотрю на другого человека и не лезу к нему в постель. Это его личное дело, как и с кем поддерживать отношения. Я считаю, что не президентское это дело решать, кто есть кто, и сортировать людей на „таких“ и „других“. Все вопросы, связанные с выражением мнений людей, должны решаться на местном уровне, и общество должно быть к этому готово. Наше общество к этому не готово. Нам есть, чем сегодня заниматься. Я хочу, чтобы вся государственная система поддержала институт семьи. Это действительно очень важно. Нам об этом нужно думать, как здесь создать условия, чтобы у полной семьи были возможности развиваться, рожать детей. Это главное».

**ПОМОЩЬ БОЙЦАМ АТО**

Вадим, брестчанин: «Как вы считаете, стоит ли брестской молодежи поддержать инициативу молодежи из города-побратима Луцка о гуманитарной помощи бойцам зоны АТО?»

Т.К.: «Я думаю, если кто-то просит у нас помощи, нужно обязательно помогать».

**Станислав Коршунов, TUT.BY**




ЮБІЛЕЙКА
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

- **Заснавальнік** – Суполка "Усход-2" гарадской арганізацыі Партыі БНФ
- Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранага карыстання
- **Падпісана ў друк** 09.10.2015 года ў 14-00
- Папера афсетная, 0,5 ул.-друк. аркуша, фармат А4. **Гарнітура** Helios.
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі.
- **Наклад:** 299 асобнікаў.
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Галоўны рэдактар:** Таццяна ГЕНДЗЕЛЬ
- **Рэдакцыйная калегія:** Наста ПАПЯЛОЎСКАЯ, Кірыл КАТОВІЧ, Ульяна ВЕНЦЭЛЬ.
- **Кантактны тэлефон: (029) 222-58-22, (029) 660-57-41.**
- **E-mail:** jubilejka@tut.by